**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 3 (719) 16 студзеня 2014 года. Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





«Не марнуйце час на мітусню! Любіце, кахайце адно аднаго!»
*Працяг тэмы на стар. 4*



## На заахвочванне найлепшых прадстаўнікоў таленавітай моладзі са спецыяльнага фонду прэзідэнта выдзелена больш за мільярд рублёў

**Аляксандр Лукашэнка сваім распараджэннем зацвердзіў рашэнні савета спецыяльнага фонду прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.**

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, са сродкаў фонду выдзелена звыш 1 млрд. рублёў на заахвочванне найлепшых прадстаўнікоў таленавітай моладзі (305,18 млн. рублёў), а таксама на набыццё музычных інструментаў установам адукацыі сферы культуры для заняткаў мастацкай творчасцю (756,5 млн. рублёў).

Акрамя таго, за творчыя дасягненні прысуджана Гранд-прэмія ў памеры 91 млн. рублёў і званне лаўрэата спецфонду прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі бронзаваму прызёру дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2013» Ілью Волкаву. Удзельнікі яго музычнага нумара адзначаны заахвочвальнымі прэміямі ў 5,85 млн. рублёў кожная.

***В. Будкевіч, БелаПАН.***

Шумілінскі раён

# Зямля прыняла салдат

■ Станіслаў Раманчук.

**Нездарма сцвярджаюць, што любая вайна заканчваецца толькі тады, калі знаходзіць вечны спакой апошні загінулы на ёй салдат.**

Хоць і засталіся ў мінулым юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі, напрыканцы лета паблізу вёскі Мікалаёва Шумілінскага раёна былі знойдзены астанкі яшчэ 9 чырвонаармейцаў, якія да гэтага часу лічыліся прапаўшымі без звестак. Менавіта летам 1941 года часці Савецкай арміі імкліва адступалі пад моцнымі ўдарамі гітлераўцаў і неслі вялікія страты жывой сілы і баявой тэхнікі. Таму ў гэтай мясцовасці ваеннаслужачыя асобнага 52-га пошукавага батальёна сумесна з прадстаўнікамі германскай грамадскай арганізацыі па доглядзе за воінскімі пахаваннямі ў Беларусі правялі неабходныя работы і адшукалі медальёны, па якім устанавілі прозвішчы чатырох загінулых. Трое з іх былі прызваны на фронт з Башкірыі, а салдат Сямён Анянаў – з Пермскага краю. Двум самым старэйшым з іх на той момант споўнілася толькі па 25 гадоў. З дапамогай расійскіх краязнаўцаў удалося выйсці на родных аднаго з загінулых малады чырвонаармейцаў, а вось пяцёра салдат так і ляглі днямі ў брацкую воінскую магілу ў вёсцы Тroліна безымяннымі. З гэтай нагоды там сабралася шмат мясцовых жыхароў, прадстаўнікоў грамадскасці, воінаў 103-й мабільнай брыгады і моладзі, адбыўся ўрачыста-жалобны мітынг. Па загінулых за вечны спакой іх душ памаліўся святар, на надмагільную пліту ляглі шматлікія вянкі і кветкі. У гонар загінуўшых салдат прагучаў воінскі збройны салют, а праца па выяўленні імён невядомых воінаў прадоўжыцца, бо да гэтага часу не ўстаноўлены прозвішчы звыш 2 тысяч пахаваных салдат на гэтай зямлі.

Талочынскі раён

# Зноў не пашанцавала Ільічу

■ Чэслаў Якубовіч.

**Усё меней часу застаецца да дня правядзення чарговага абласнога фестываля-ярмаркі працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2015”, які пройдзе сёлета восенню ў Талачыне.**

Многіх жыхароў райцэнтра засмуціла тое, што асноўныя мерапрыемствы свята вырашылі праводзіць не ў выхадныя, а ў працоўны дзень, гасцей сустрэнуць тут у пятніцу 25 верасня. У адрозненне ад папярэдняй сталіцы Дажынак – Гарадка, гэтаму гораду на ўсходзе вобласці яшчэ болей не пашанцавала з фінансаваннем работ на запланаваных 95 аб'ектах. Таксама як і ў іншых месцах, у Талачыне бюст ідала бальшавікоў Леніна прыйшлося прыбраць з цэнтральнай плошчы ў гарадскі сквер. Канешне, і тут пастараліся, каб гэты райцэнтр змяніўся, папрыгажэў, аднак эканамічны крызіс унёс свае карэктывы. З пачатку года грошай на “Дажынкі” ўвесь час не хапала, фінансаваліся расходы на рэалізацыю праекта са скрыпам. Толькі на 41 фестывальны аб'ект выдзелілі сродкі з абласнога і мясцовага бюджэтаў, а на астатнія грошы павінны былі выдзеліць мясцовыя прадпрыемствы і арганізацыі. Аднак іх фінансавае становішча незайздроснае і рэканструкцыя многіх аб'ектаў адкладзена на наступныя гады. Прыйшлося нават збіраць пазачарговую сесію абласвета дэпутаў і ўносіць змены ў расходы абласнога бюджэту. Гораду дадаткова накіравалі сродкі ў памеры 2,6 млрд. рублёў з рэсурсаў сістэмы ЖКГ на гэты год на абнаўленне інфраструктуры цэнтральнай часткі Талачына. Дадатковыя сродкі выдзеліла вобласць і на рамонт фізкультурназдараўленчай залы, планы стварэння на яе базе басейна яшчэ не хутка ажыццявяцца. У самім жа райцэнтры працы яшчэ вельмі шмат, а цэнтральная вуліца Леніна, па якой пройдуць калоны перадавікоў жніва, пакуль месцамі выглядае непрывабна і нагадвае болей будаўнічую пляцоўку.

Пастаўскі раён

# Яшчэ не пераяліся мужыкі

■ Кастусь Александровіч

**У вельмі многіх цяперашніх гараджан застаюцца вясковыя карані, а таксама атрыманая там працоўная загартоўка, іх прыцягвае праца на зямлі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне ўраджэнец вёскі Жылінскія, цяпер прадпрымальнік Пётр Кароль адрадзіў некалькі гадоў спаборніцтвы па ручной касьбе траў. Яны сталі вельмі папулярнымі, пераўтварыліся ў сапраўднае культурна-спартыўнае свята на ўлонні прыроды, а лепшыя мясцовыя касцы паспяхова выйшлі ўжо і на міжнародны ўзровень. Яны нядаўна зрабілі сапраўдны фурор на прадстаўнічым міжнародным турніры на Урале, дзе пацуе адзіны ў Расіі завод па вытворчасці кос. Там сярод 80 удзельнікаў у фінале лепшы вынік паказаў пастаўчанін Валерый Каліцкі, а сярод жанчын касцоў не было роўных таксама беларусцы Наталлі Сабчук. Услед за гэтым мясцовых касцоў запрасілі і на юбілейны X чэмпіянат Еўропы па ручной касьбе траў, які прайшоў на Брэстчыне і супаў з традыцыйным экалагічным фестывалем на Палессі “Спораўскія сенажаці”. Туды пастаўчане прывезлі ўвогуле вельмі прадстаўнічую дэлегацыю і выставілі на спаборніцтвы адразу пяць каманд па два касцы ў кожнай. Як і летась, свой высокі клас пацвердзіла самая вопытная каманда ў складзе В. Каліцкага і яго напарніка, падпалкоўніка запасу Мікалая Яльчыка, які нядаўна ўзначаліў Курапольскі сельсавет. Гэта каманда пастаўчан у Еўропе сярод касцоў стала другой, а былы вайсковец у індывідуальным заліку заняў ганаровае 3-е месца. Абодва спрактыкаваныя касцы запрошаны цяпер паўдзельнічаць і на сусветным першынстве, якое пройдзе восенню ў Польшчы.

| Надвор'е ў Глыбокім | www. rp5ru | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чацвер 27.08.15 | | | | Пятніца 28.08.15 | | | | Субота 29.08.15 | | | | Нядзеля 30.08.15 | | | | Пан. 31.08. | | |
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +18 | +23 | +19 | +18 | +18 | +24 | +23 | +17 | +15 | +23 | +18 | +14 | +15 | +23 | +18 | +13 | +16 | +25 |
| Ціск | 750 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 745 | 742 | 746 | 749 | 750 | 750 | 751 | 753 | 754 | 753 | 753 | 752 | 750 |
| Вецер м/сек | 3 | 3 | 3 | 2 | 4 | 5 | 4 | 7 | 6 | 6 | 9 | 7 | 6 | 7 | 7 | 4 | 2 | 2 | 3 |
| | З | Ю-З | З | Ю-З | Ю | Ю | Ю | Ю-З | С-З | З | З | З | З | С-З | С-З | С-З | З | Ю-З | Ю |
| Вільготнасць | 85 | 83 | 50 | 77 | 66 | 74 | 59 | 69 | 83 | 90 | 38 | 52 | 72 | 84 | 45 | 58 | 85 | 76 | 37 |

# Аб самым надзённым

## ТОЛЬКІ ВАРВАРЫ МОГУЦЬ ЗНІШЧАЦЬ “САНКЦЫЙНЫЯ ПРАДУКТЫ”, КАЛІ Ў БЕДНАСЦІ І НАВАТ ГАЛЕЧЫ ЖЫВУЦЬ МІЛЬЁНЫ ПРОСТЫХ РАСІЯН



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як вядома, ужо ў першы дзень новай акцыі рускіх чыноўнікаў у розных кутках гэтай псеўдаімперыі было знішчана больш 300 тон “варожай” ежы на суму звыш 3 млн. рублёў. Такое рашэнне выклікала зразумелы пратэст нават у расійскім грамадстве, каля 300 тысяч людзей у сацсетках абурыліся гэтым дзіўным крокам.**

Другі год запар ва ўсім свеце рэзка пагаршаюцца адносіны большасці замежных грамадзян да агрэсіўнай Расіі, найперш – да яе кіраўніцтва. Сёлета ў жніўні яны сталі яшчэ больш пагардлівыя, калі расійскі кіраўнік-гебіст У. Пуцін падпісаў адыёзны ўказ аб знішчэнні прадуктаў харчавання, якія падпадаюць пад уведзенае Крамлём эмбарга. Як вядома, ужо ў першы дзень новай акцыі рускіх чыноўнікаў у розных кутках гэтай псеўдаімперыі было знішчана больш 300 тон “варожай” ежы на суму звыш 3 млн. рублёў. Такое рашэнне выклікала зразумелы пратэст нават у расійскім грамадстве, каля 300 тысяч людзей у сацсетках абурыліся гэтым дзіўным крокам, палічылі нават грахом знішчаць людскую працу па хрысціянскай традыцыі.

Так, сапраўды, суседняя Масковія зараз уступіла ў зацятую халодную вайну з ненавісным буржуйскім Захадам і, напэўна, ад свайго бяссілля і злобы вырашыла зноў паказаць яму “кузькіну маму” за кошт сваіх жа суайчыннікаў. Нават расійская газета бізнес-кругоў “Ведомости” абурылася і назвала пуцінскае рашэнне “демонстративным варварством”, з чым я абсалютна згодны і такім чынам назваў гэты артыкул. За год пасля анексіі Крыма, хто не разабраўся, жыццё многіх дзясяткаў мільёнаў рускіх людзей толькі пагоршылася, што і зафіксаваў беларускі журналіст у Смаленскай вобласці, дзе сфатаграфаваў, як людзі корпаюцца там на сметніку і падбіраюць у сумкі тое з ежы, што не ўдалося расціснуць бульдозерам.

Праўда, неўзабаве ўваход на гэты палігон адыходаў закрылі і перасталі пускаць туды бедны народ, які шмат дзе ў расійскай глыбінцы перабіваецца з хлеба на ваду і не можа нармальна харчавацца. Аднак і наша Беларусь таксама з-за праводзімай Крамлём палітыкі атрымала толькі ўсеабдымны працяглы эканамічны крызіс, які толькі пачынаецца і невядома калі для нас закончыцца. Летась нашы ўлады разлічвалі добра зарабіць на пастаўках у Расію дадатковых прадуктаў харчавання. На справе ўсё атрымалася па-іншаму. Расійскі рубель яшчэ летась рухнуў і дагэтуль працягвае слабець і з-за ягонай дэвальвацыі беларускі АПК страціў летась звыш 360 млн. долараў экспартнай выручкі.

Акрамя гэтага і супраць Беларусі расійскія ветэрынары ўводзілі розныя санкцыі, знаходзілі нібыта нейкія шкодныя рэчывы ў прадукцыі больш чым 20 беларускіх мяса і малочных заводаў. Па гэтай прычыне беларусы яшчэ згубілі больш 100 млн. долараў, гандлюючы са сваім капрызлівым “саюзнікам”. Пытанне з пастаўкамі на расійскі рынак сырой айчыннай свініны дагэтуль не вырашылася, адпаведныя дазволы атрымалі толькі 4 беларускія мясакамбінаты. У адрозненне ад той жа Расіі, беларусы не толькі сябе могуць пракарміць, яшчэ каля 60 % выраблена мяса і малака ідзе ў нас на продаж за мяжу.

Нам бы радавацца толькі з гэтай нагоды, але не выпадае. Вось і сёлета ў першым паўгоддзі Беларусь павялічвала пастаўкі суседзям мяса, а малочных прадуктаў нават на 21 %. На жаль, у дзяржказну наша краіна атрымала валютнай выручкі ў студзенічэрвені на асноўным сваім рынку збыту на 20 % меней, альбо зарабіла 1,515 млрд. долараў. Ды яшчэ і нашы беларускія сыры, яблыкі, грыбы могуць таксама патрапіць пад нож бульдозераў ці згарэць на агні. Каб не несці страты, беларускія вытворцы пакрыху пачалі адгружаць прадукты харчавання ў іншыя краіны Еўропы, Азіі, Акеаніі і ў Афрыку. Разлікі пуцінцаў нанесці шкоду еўрапейскім і амерыканскім фермерам таксама праваліліся, па ЕС сёлета экспарт сельгаспрадукцыі павялічыўся на 5 %.

Не паўплывалі расійскія контрсанкцыі і на нашых суседзяў-палякаў, якія актыўна сталі гандляваць з намі, Украінай, знайшлі збыт для свайго малака, мяса і яблыкаў у цэлым па свеце. А руская хай кусаюць сябе за локаць, бо харчаванне ў іх моцна падаражэла, асартымент прадуктаў значна зменшыўся. У гэтай гісторыі трывожыць іншае. Зразумела, моцна карумпаваны расійскі алігархічны ўрад вельмі далёкі ад свайго простага народа.

Расійскія міністры і іх прыбліжаныя елі і будуць прагіцваць есці толькі дэлікатэсы, маючы шматтысячныя долараў заробкі. Аднак як мог цяперашні расійскі правадыр, сям'я якога моцна галадала ў блакадным Ленінградзе і страціла старэйшага сына, і які ведае пра моцны галадамор у Паволжы рашыцца на такі зморчны крок паліць і знішчаць сыры і каўбасы? Ці толькі на гэтым адстаўны палкоўнік можа спыніцца? На жаль, Крэмль цяпер уцягнуў расійскі народ і ў пэўнай ступені і нас зноў у халодную вайну з цывілізаваным светам. Справа ў тым, што ўслед за гэтым масавым знішчэннем “шкоднай” ежы ўжо зусім нямнога засталося і да вар'яцкага рашэння пачаць знішчаць тых, хто гэтыя прадукты вырабляе. Як бы ўпраўленцы Расіі не надзьмувалі свае шчокі, а заходнія санкцыі працуюць і робяць сваю справу, жыццё пакуль 40 % простых расіян толькі пагаршаецца (ежа за год падаражэла на 27-40%). Яшчэ не хутка руская змогуць сябе самі пракарміць і таму асобныя прадукты ў іх на фоне знішчэння ежы могуць яшчэ болей падаражэць і стаць нават дэфіцытам. І самае страшнае, што можа чакаць неўзабаве нашых суседзяў: Расію могуць адключыць ад сусветнай фінансавай сістэмы разлікаў за яе дзікую палітыку і за актывізацыю баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны. Дарэчы, пуцінцы на ежы не спыняцца, яны збіраюцца забараніць імпарт больш 100 тысяч найменняў медыцынскай заходняй тэхнікі і абсталявання – ад шпрыцоў да тамографаў…

## Дзень за днём

**Курс долара пераадолеў новы гістарычны максімум – 15800 рублёў. З 1 верасня Беларусь адмаўляецца ад 2-га гатунку малака, будзе толькі экстра, вышэйшы і першы. Інфляцыя ў сярэдзіне жніўня вырасла да 7,5 %. Беларускія аўтадылеры пачалі масавыя скарачэнні персаналу з-за падзення продаж аўтамабіляў. Пасля халоднага ліпеня краіну накрыла анамальная спёка, за адны выхадныя ўтапіліся 25 чалавек. У Мінску зноў адбылося буйное адключэнне электрычнасці, нейкі час без мабільнай сувязі МТС былі мінчане і жыхары вобласці.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Пасля рашэння ўлад краіны прадаць як мага болей нафты і газу рэзка рухнуў зноў курс расійскага рубля, даўгі расійскій кампаній выраслі да 362 млрд. долараў.

**Украіна.** Глава місіі АБСЕ Поль Пікар заявіў, што са жніўня мінулага года расійскую граніцу ў Растоўскай вобласці перасякла 21 машына з трунамі забітых рускіх ваенных.

**Германія.** З-за агрэсіі РФ ва Украіне рэзка адмоўна сталі адносіцца да Расіі ўжо 70 % немцаў і французаў, давер да Пуціна – яшчэ меншы ў Еўропе і на Блізкім Усходзе.

**Бельгія.** Каб спыніць занадта агрэсіўны Крэмль, ЕС плануе рэзка абмежаваць імпарт расійскіх энерганосьбітаў у Еўропу і нават поўнасцю спыніць закупкі расійскай нафты.

**ЗША.** Краіна ўвяла санкцыі супраць буйнейшага радовішча "Газпрама" ў Ахоцкім моры, дзе РФ думала павялічыць магутнасці свайго адзінага завода па звадкаванні газу.

**Францыя.** Пасля спынення кантракта на продаж Расіі двух верталётаносцаў "Містраль" інтарэс да іх пакупкі праявілі 13 краін свету, найбольш рэальныя - Індыя і Турцыя.

**Англія.** Пакуль Крым будзе заставацца часткай Расіі, як заявіла газета Financial Times, заходнія санкцыі супраць Расіі будуць дзейнічаць і стануць яшчэ больш жорсткімі.

**Польшча.** На пасаду новага прэзідэнта афіцыйна заступіў 43-гадовы Анджэй Дуда, ён выступіў за больш моцную прысутнасць НАТО, за стварэнне сучаснай польскай арміі.

**Расія.** Вядомы расійскі палітолаг і навукоўца А. Піанткоўскі заявіў, што Пуціна чакае палацавы пераварот, бо эліта ўсведамляе пагрозу нацыянальнай і сваёй катастрофы.

**Егіпет.** Пасля маштабных работ коштам 8,2 мільярда долараў краіна запусціла дублёр Суэцкага канала даўжынёй 35 км і забяспечыла двухбакавы рух грузавых і іншых суднаў.

**Расія.** Федэрацыя яўрэйскіх абшчын папрасіла Пуціна не знішчаць імпартныя прадукты, а перадаваць іх сіротам і бедным людзям, колькасць якіх дасягнула 24 млн. чалавек.

**Украіна.** Затрыманы пад Данецкам рускі ваенны, маёр У. Старкоў прызнаўся, што за ўдзел у вайне на Данбасе пад чужымі прозвішчамі ім выплочваюць трайныя аклады.

**Літва.** З-за моцнай канкурэнцыі беларусам, уладальнікам "Еўраопта" прыйшлося закрыць сетку з 26 сваіх магазінаў гандлёвай сеткі Frech market і звольніць персанал.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск заклікаў каталіцкіх святароў у свеце быць больш спагадлівымі да тых вернікаў, якія перажылі развод у жыцці.

**Расія.** Шок сярод расіян выклікаў факт забойства бацькам у Ніжнім Ноўгарадзе шасці дзяцей ва ўзросце да 7 гадоў і іх маці, арыштавалі некалькі паліцэйскіх за халатнасць.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка аб'явіў аб пераводзе айчыннай эканомікі на ваенныя рэйкі, запатрабаваў ад урада напружанай працы па пошуку новых рынкаў збыту прадукцыі.

**Курапаты.** Падчас візіту ў Беларусь група прадстаўнікоў Кангрэса ЗША наведала месцы пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій пасля сустрэчы з кіраўніком дзяржавы.

**Астравец.** У раёне пабудавалі новую аўтадарогу Р52 працягласцю 24,5 км ад райцэнтра да Ашмян і ўзводзімай Беларускай АЭС 2-й катэгорыі, яна мае развязку з трасай М7.

**Брэст.** У вобласці і на Віцебшчыне складаней усяго стала знайсці новую працу, на адну вакансію прэтэндуе па 3 беспрацоўныя, за паўгода іх прыбавілася 99,1 тысяч чалавек.

*Валожын.* Падчас жніва ад узгарання камбайна "Дон-1500" ля вёскі Ластаянцы згарэла 8 гектараў пшаніцы, у Смалявіцкім раёне так агонь знішчыў 7 гектараў трыцікале.

**Раўбічы.** Наступствы цяжкай інфекцыйнай хваробы – монануклеозу аказаліся настолькі сур'ёзнымі, што славутая біятланістка, Герой Беларусі Д. Домрачава сезон прапусціць.

**Мінск.** Беларускае прадпрыемства ВПК распрацавала новы высокамабільны супрацьтанкавы ракетны комплекс "Маскіт" для знішчэння самай сучаснай тэхнікі.

**Брэст.** Падчас няверагоднай спёкі ў абласным цэнтры зафіксавалі абсалютны рэкорд гарачыні – 36,7 градусы цяпла за ўсе часы назірання за надвор'ем.

**Мінск.** З-за крызісу продажы жаночай бялізны "Мілавіцы" знізіліся ў краіне на трэць, на 23 млн. еўра меней, чым год назад, холдынг звольніў сёлета 586 супрацоўнікаў.

**Чэрыкаў.** Пасля сутыкнення раніцай з каровай, збітай аўтамабілем, у райцэнтры памёр ад атрыманых траўм 80-гадовы веласіпедыст, пажылы пенсіянер.

**Мінск.** Да канца года з-за пагаршэння экспарту, як папярэдзіў эканаміст, кандыдат навук Л. Злотнікаў, долар падаражэе, але не да 20 тысяч, а да 16-17 тысяч за беларускі рубель.

**Пінск.** Супраць дырэктара гандлёвага філіяла райпо распачалі крымінальную справу за крадзёж з магазінаў сістэмы за некалькі гадоў больш 750 млн. рублёў выручкі.

**Магілёў.** Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел асвяціў самы вялікі ў Беларусі праваслаўны Спаса-Прэабражэнскі сабор вышынёй 60 метраў, у ім можа быць да 3,5 тысяч вернікаў.

**Мінск.** Прафесар БДУ, 63-гадовы І. Чарота абурыўся, што ў Беларусі трывала ўкаранілася ў свядомасці практычна ўсіх беларусаў маладзей 30 год русафобія і пагарда да рускіх.

**Зельва.** З нагоды 105-годдзя знакамітай беларускай паэткі-патрыёткі Ларысы Геніюш у Свята-Троіцкай царкве ля яе бюста адбылася памінальная Богаслужба.

## Аплочваць паслугі «Белтэлекама» можна будзе на 5 дзён пазней



■ FINANCE.TUT.BY

**РУП «Белтэлекам» з 25 жніўня змяняе правілы платы абанентамі за тэлефон і інтэрнэт. Цяпер аплачваць паслугі трэба да 1-га чысла. Пра гэта паведамляе прэс-служба нацыянальнага аператара.**

На прадпрыемстве растлумачылі, што тэрміны зьмяняюцца ў сувязі з уступленнем у сілу пастановы Савета міністраў № 589 ад 2015/06/13 «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Правілы аказання паслуг электрасувязі». У іх паказана, што абаненцкая плата за бягучы месяц уносіцца не пазней за 1-га чысла наступнага месяца, плата за мясцовыя, міжгароднія і міжнародныя тэлефонныя злучэнні, а таксама іншыя паслугі электрасувязі ўносіцца не пазней за 1-га чысла месяца, наступнага за месяцам выстаўлення платы за аказаныя паслугі электрасувязі.

- Такім чынам, тэрмін аплаты павялічаны на 5 дзён, - растлумачылі ў Белтэлекаме. - Калі раней трэба было аплачваць паслугі да 25 числа бягучага месяца, то цяпер - да 1 числа наступнага. Напрыклад, паслугі за жнівень можна аплаціць да 1 кастрычніка (па старых правілах - да 25 верасня. Пры гэтым парадак аплаты паслуг з авансавай формай - гэта значыць Інтэрнэт, ZALA, «Максифон» - не памяняўся.

У Белтэлекаме адзначылі, што новыя правілы пачнуць дзейнічаць з 25 жніўня. Калі абанент не згодны з імі, то ў тэрмін да 18 верасня павінен накіраваць аператару пісьмовае паведамленне, якое будзе расцэньвацца як адмова ад дамовы на аказанне паслуг электрасувязі. Аплаціўшы выстаўлены кошт, будзе лічыцца заключаным дадатковае пагадненне да дзейнай дамовы.

## Збор брусніц і журавін пачнецца восенню

На тэрыторыі Віцебскай вобласці брусніцы можна пачынаць збіраць з 3 верасня, а журавіны - з 10 верасня.

Такія тэрміны збору і нарыхтоўкі дзікарослых ягад устаноўлены рашэннем Віцебскага аблвыканкама ад 5 жніўня. У мінулым годзе збор гэтых дароў лесу пачаўся 16 і жніўня 25 адпаведна.

Парушэнне ўстаноўленых тэрмінаў, прымяненне забароненых сродкаў або метадаў збору, альбо іншае парушэнне правілаў збору або нарыхтоўкі цягнуць папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь (на дадзены момант 3,6 млн.руб). За аналагічнае парушэнне індывідуальнага прадпрымальніка могуць аштрафаваць на суму да ста базавых велічынь, а на юрыдычную асобу - да пяцісот базавых велічынь, нагадвае Наваполацкая гаррайінспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Як паведамлялі раней, на тэрыторыі ўсёй Віцебскай вобласці ўведзена забарона на наведванне лесу, які дзейнічае да гэтага часу.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Лепель.** Адразу 20 работнікаў звольніліся з КУПСХП "Лепельскае" ў пачатку жніва з-за сістэматычных затрымак зарплаты, у гаспадарцы не разлічваліся за працу яшчэ ў маі.

**Верхнядзвінск.** Вадзіцель, які перавозіў 1,5 тоны памідор з Беларусі ў Расію, угнаў аўтамабіль назад з пагранпункта на Пскоўшчыне, калі даведаўся аб знішчэнні таматаў.

**Віцебск.** З моманту наступлення спёкі ў вобласці ўдалося выявіць і патушыць на пачатковай стадыі 6 лясных і тарфяных пажараў на плошчы 3,6 гектары.

**Паставы.** З дзяржпраграмы будаўніцтва выключылі ўзвядзенне 2-й чаргі фермы з робатамі ў Коўзанах, гарадской лазні і свінафермырэпрадуктара ў Камаях.

**Глыбокае.** У райцэнтры адбыўся рэспубліканскі семінар па пытаннях арганізацыі работы аддзяленняў сацыяльнай дапамогі на даму з удзелам вядучых спецыялістаў Мінпрацы.

**Докшыцы.** На прайшоўшых пад Багушэўскам абласных спаборніцтвах вальшчыкаў лесу "Лесаруб-2015" першае месца заняла каманда мясцовага Бягомльскага лясгаса.

**Шаркаўшчына.** Двое жыхароў райцэнтра пойдуць пад суд за крадзёж ночцу з гадавальнага пруда рыбгаса "Навінкі" Пастаўскага раёна 103 кг элітнага карпа.

**Віцебск.** Падатковая інспекцыя прапанавала сантэхніку дзетсада аказаць "паслугу" і аштрафавала потым на 5 млн. рублёў за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

**Бешанковічы.** На возеры Сора перакуліўся на лодцы і трагічна загінуў 49-гадовы жыхар Віцебка, за 7 месяцаў на вадаёмах вобласці ўтапіліся 43 чалавекі, з іх пяцёра – дзеці.

**Віцебск.** Падчас купання ў рацэ Лучоса віцебскі падлетак дастаў са дна мінамётную міну часоў II Сусветнай вайны, якую потым абясшкодзілі ваенныя сапёры.

**Вароны.** Паблізу абласнога цэнтра 47-гадовая жанчына за рулём Рэно не прапусціла фуру, выязджаючы з другараднай дарогі, і загінула ад лабавога сутыкнення з аўто.

**Верхнядзвінск.** З удзелам тысячы пілігрымаў у касцёле св. Тройцы ў Росіцы прайшлі ўрачыстасці памяці блаславлёных святароў, якія загінулі падчас карнай аперацыі немцаў.

**Тулава.** Міліцыя пачала вышук невядомых злодзеяў, якія з прыпынку грамадскага транспарту ў рабочым пасёлку скралі ноччу біятуалет коштам 2,6 млн. рублёў.

**Віцебск.** Мастацкаму музею падараваў сваю карціну "Мой Віцебск" гендырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, ён тут стаў мастаком.

**Браслаў.** У выдавецтве "Галіяф" выйшла грунтоўная кніга мясцовага краязнаўцы і настаўніцы Валянціны Ходас "Браслаў. Ад старажытнасці да сучаснасці".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Recha» ў Лучаі: «Не марнуйце час на мітусню! Любіце , кахайце адно аднаго!»



Андрусь Такінданг.

■ Лена Колтан-Клімза,
*Фота: Таццяна Смоткіна-Янцэвіч, кс. Мікалай Ліпскі.*

5 студзеня, у другую нядзелю пасля Божага нараджэння ў Лучаі адбыўся сапраўдны працяг каляднай «казкі». Пасля святой Імшы вернікі атрымалі сапраўдны калядны падарунак.

У чарговы (восьмы!) раз перад прысутнымі ў касцёле выступіў гурт «Recha» на чале з Андрусём Такіндангам. Варта ўзгадаць, што цеснае супрацоўніцтва Лучайскай парафіі і гурта «Recha» пачалося ў 2012 годзе, калі на фэст святога Андрэя Баболі быў запрошаны калектыў. Адразу, пасля першага выступу музыкі заваявалі сімпатыі гледачоў. Цікава, што падабаюцца песні не толькі моладзі, але і людзям паважанага ўзросту. Кожны знаходзіць у іх нешта сваё.



Гурт «Рэха» дае канцэрт у лучайскім касцёле для мясцовых парафіянаў.

Дарэчы, назва «Recha» невыпадковая. Гурт не прытрымліваецца ніякіх стылістычных межаў, а адлюстроўвае тое, што адбываецца ў сучаснай беларускай музыцы: прасочваюцца элементы, рэха і поп-музыкі, і фальклорных матываў, і кабарэ, і аўтарскай песні.

Перад выступам пробашч Лучайскай парафіі Мікалай Ліпскі пажартаваў, што напярэдадні свята Трох каралёў выступяць «4 каралі». Напэўна, ён меў на вазе тое, што музыкі з'яўляюцца сапраўднымі віртуозамі сваёй справы.

Безумоўна, што «душа Recha» – нязменны лідар гурта Андрусь Такінданг. Асоба творчая, шматгранная. У свае 30 год праявіў сябе, як мастак, рэстаўратар, музыкант, паэт, кампазітар, тэлевядучы, а самае галоўнае, Андрусь вельмі сціплы, шчыры, цудоўны чалавек – сапраўдны хрысціянін. Нельга не ўзгадаць акардэаніста Віктара Паўлючэню, які не толькі віртуозна валодае інструментам, але і дорыць непаўторную ўсмешку. Немагчыма ўявіць гурт «Recha» і без гітарыстаў Яўгена Шурмея і Кастуся Лісецкага.

Напачатку выступу Андрусь Такінданг павіншаваў прысутных з Божым нараджэннем і Новым годам. У канцэрце прагучалі знаёмыя ўжо кампазіцыі, якія даўно ўжо палюбіліся Лучайцам: «Машына», «Свабодным быць», «Гражына» і іншыя. Лейтматывам свята былі сапраўдныя хрысціянскія вартасці: «Не марнуйце час на мітусню! Любіце, кахайце адно, аднаго!».

Сапраўднай неспадзяванкай свята стала прысутнасць на канцэрце Апостальскага Нунцыя арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроцці, які прыбыў у Лучай «інкогніто».

Увогуле, працяг каляднай «казкі» атрымаўся непаўторным і незабыўным. Ёсць падставы меркаваць, што і сёлетні канцэртны сезон у Лучаі будзе не менш цікавым і насычаным, чым мінулагодні. Так, на 2 лютага ўпершыню запрошаны выканаўца Алесь Лось. А 2 сакавіка запланаваны канцэрт вядомага беларускага выканаўцы, які ўжо мае тут шмат сваіх прыхільнікаў.

# Мой горад! Глыбіня традыцый, гісторыі, духу!

*13 студзеня у Глыбоцкім райвыканкаме адбылося пасяджэнне журы, дзе разглядаліся работы глыбачан, якія былі дасланыя на конкурс, па абранні лепшага лагатыпа і слоганаў да святкавання 600-годдзя Глыбокага.*

■ Уладзімір Скрабатун

**Словы, якія вынесеныя ў загаловак, лічацца аднымі з самых удалых слоганаў да 600-гадовага юбілею Глыбокага. Згаданы слоган даслалі Вячаслаў Гладкіх, Дзяніс Філіпчык.**

Усяго на конкурс было даслана 26 лагатыпаў і 34 слоганы. Сярод работ не мала лагатыпаў і юных мастакоў. Работы дасылаліся як індывідуальна, так і ад працоўных калектываў. Удзелаўскі дзіцячы садсярэдняя школа, напрыклад, даслала 5 слоганаў, сярод якіх журы адзначыла:

**«История оставила свой след:**
**Глубокому уже шесть сотен лет!»,**

а Глыбоцкая цэнтральная раённая бальніца – 9, сярод якіх слоган:

**«Радзіма сінявокая,**
**Мой гонар ты - Глыбокае!**

Журы аднесла ў шэраг удалых.



Пасяджэнне журы.

Зразумела, лагатып мусіць быць просты, не перагружаны шматлікімі дробнымі дэталямі, ён павінен быць запамінальны і адлюстроўваць дух Глыбокага. І трэба аддаць належнае аўтарам – яны гэта разумелі. Асноўнымі сюжэтамі лагатыпаў былі два нашыя храмы і, натуральна, вішні. Лічба – 600, альбо спалучэнне лічбаў 2014-1414, прысутнічала ва ўсіх працах.

Акрамя таго важна было, каб лагатып у чорна-белым варыянце не губляў пераходы ад розных колераў. Гэта істотна, калі лагатып будзе выкарыстоўвацца ў чорна-белым друку (газеты). Да подпісаў лагатыпаў выказвалася пажаданне, каб яны былі, усё ж, на беларускай мове.

Абраныя журы лепшыя лагатыпы і слоганы яшчэ будуць зацверджаныя аргкамітэтам. Прытым, нават прыярытэтны лагатып ці лагатыпы яшчэ, меркавана, вернуцца да аўтараў работ на дапрацоўку. Ёсць, напрыклад, пажаданне змяніць на пэўным лагатыпе шрыфт.

Зразумела, што абраны лагатып будзе не толькі сімвалам свята, але пойдзе і на розную сувенірную прадукцыю, кубкі, футболкі, магчыма, і на прадукцыю нашых прадпрыемстваў, напрыклад, на банкі са згушчонкай.

Агулам кажучы, падрыхтоўка да свята 600-годдзя горада, якое будзе доўжыцца тры дні, пачалося. Яно, як мяркуецца, адбудзецца ў дні 70-х угодкаў вызвалення горада і краіны ад нямецкіх акупантаў.




**По меркаванні журы, гэты лагатым – найбольш удалы. Аўтар Арочка В.І.**

Унізе мы змяшчаем некалькі лагатыпаў, якія былі дасланыя на конкурс да 600-годдзя горада.


















# Шаркоўшчынскі край літаратурны



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

## 1. Паэтычная ручаіна пабегла... ў вёску Ручай.

Народнае літаратурна-музычнае аб'яднанне "Світанак", створанае пры раённым Доме культуры, адзначыла ў гэтым годзе 20-годдзе сваёй дзейнасці. У склад яго ўваходзяць прафесійныя паэты Шаркоўшчынскай зямлі, сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі К.Сосна, М.Кукуць, а таксама аматары паэтычнага слова, прыгожага пісьменства. Іх творы друкуюцца тры разы на год на літаратурнай старонцы "Світанак" у раённай газеце "Кліч Радзімы".

Ведаю, што чытачы заўсёды чакаюць новыя вершы сваіх землякоў-паэтаў. У "Світанак" уваходзяць больш за пятнаццаць творцаў, якія пішуць вершы, апавяданні. Творы большасці – на роднай мове. Творчая літаратурная суполка акрыляе, натхняе, падтрымлівае надзею, асабліва пачынаючых, маладых, якія спрабуюць пяро ў паэтычнай творчасці.

Такія знаныя ў сваім краі паэты, як К.Сосна, В.Лагун, М.Кукуць, Э.Вялічка, Т.Еўдакова, І.Тарбецкая маюць каля дзясятка паэтычных зборнікаў. Творы іншых друкуюцца самавыдатам і пабачылі свет у літаратурным часопісе "Гоман", "Полымя", літаратурным альманаху "Дзвіна" (паэты Віцебшчыны), агульным зборніку паэзіі "Шаркоўшчынскаму краю", ў міжнародных праектах. Н.Паляк, Т.Еўдакова, Г.Сікора, А.Міхайлава, П.Касцюковіч. Святлана Клімза, вельмі таленавітая дзяўчына, і іншыя – носьбіты і зберагальнікі роднай мовы, якія заслугоўваюць народнае прызнанне. На вершы В.Лагуна, М.Кукуця, К.Сосны напісаны песні самадзейнымі кампазітарамі. Кіраўнік аб'яднання – Кацярына Сосна, журналіст, паэтка, згуртоўвае творчых асоб, выяўляе новыя маладыя таленты, спрыяе іх развіццю.

На рахунку большасці світанкаўцаў шматлікія дыпломы конкурсаў паэтычнай творчасці на абласным і рэспубліканскім узроўні, граматы і ўзнагароды. Плённа працуе як дзіцячая пісьменніца настаўніца Ірына Тарбецкая.

У лістападзе гэтага года літаратурнаму аб'яднанню "Світанак" быў выдзелены асобны пакой у памяшканні адкрытай у новым памяшканні Ручайскай сельскай бібліятэкі. Там створаны музей аб'яднання, вучні некалькіх сельскіх школ ужо наведалі яго, дзе пазнаёміліся з творчасцю мясцовых паэтаў. Цяпер світанкаўцы могуць часцей збірацца, абмяркоўваць надзённыя пытанні, дзяліцца творчымі планамі, адчуваць сяброўскае плячо падтрымкі.

Урэшце да вёсачкі Ручай пабегла ручаінка паэтычнага братэрства. Спонсарскую дапамогу музею выдзеліла сельгаспрадпрыемства "Агратэхсервіс", на тэрыторыі якога знаходзіцца бібліятэка. Адкрыццё музея раённага літаратурнага аб'яднання "Світанак", дзе прадстаўлены ўсе здабыткі літаратурнай творчасці за два дзесяцігоддзі, – вельмі значная, патрэбная, карысная з'ява, асабліва для маладога пакалення.

Світанкаўскі музей – гэта месца сустрэчы з прыгожым пісьменствам, якое дапамажа палюбіць роднае слова, родны край і пазнаёміцца з паэтамі, якія яго ўслаўляюць, шануюць і берагуць родную мову.

Адзінае, што засмучае: не знайшлі ўлады пакойчыка ў Шаркоўшчыне для музея. У вёску Ручай, што па дарозе на Германавічы, дабірацца вельмі нязручна. Школьнікаў прывязуць на школьных аўтобусах. А астатнія, хто хацеў бы наведаць музей? Ды і ў світанкаўцаў далёка не ў кожнага ёсць уласнае аўто.



**Вучні Германавіцкай школы ля будынка Ручайскай бібліятэкі, дзе адкрыты музей літаб'яднання "Світанак". Сустрэча з паэтамі К.Сосна, І.Тарбецкай, Н.Паляк, Л.Ардынскай. Снежань 2013г.** *Фота Германа Тарбецкага.*

## 2. "Слуцкія ткачыхі" М.Багдановіча на сельскай сцэне.

У снежні, калі адзначаецца дзень народзінаў Максіма Багдановіча, неўміручага аўтара зборніка "Вянок", грамадзяніна, патрыёта, імя якога стала поруч з імёнамі Я.Купалы і Я.Коласа, у Радзюкоўскім Доме культуры адбылася літаратурная вечарына.

Арганізатарамі яе былі сельская бібліятэка, Дом культуры аграгарадка Радзюкі і сябры народнага літаратрна-музычнага аб'яднання "Світанак".

Партрэт М.Багдановіча, ільняны рушнік з прыгожым беларускім арнаментам, "цвяток радзімы васілёк", аб якім ён так сумаваў удалечыні ад роднай зямлі, квет дзікай ружы шыпшыны – так ён марыў назваць свой зборнік вершаў – упрыгожвалі сцэну.



**Радзюкоўскі Дом культуры. У час творчай сустрэчы з мясцовымі паэтамі Ларысай Шпак, Кацярынай Сосна, Людмілай Ардынскай (прадапошняя ў радзе), світанкаўцамі.** *Фота Германа Тарбецкага.*

Вечарына пачалася песняй "Слуцкія ткачыхі" на верш М.Багдановіча ў выкананні вакальнага гурта "Груца". Бібліятэкар В.Абрамава распавяла прысутным аб жыцці і творчым шляху паэта, які за вельмі кароткае імгненне, падараванае яму лёсам, стварыў паэзію светлую, радасную, жыццясцвярджальную насуперак народнаму гору і сваёй невылечнай хваробе. Іх значна больш, чым тых, якія пранікнуты смуткам і тугой. Паэт верыў у народнае шчасце і светлую будучыню сваёй краіны.

**Ты не згаснеш, ясная заранaчка,**
**Ты яшчэ асвеціш родны край.**
**Беларусь мая! Краіна бра-нач-ка*,**
**Устань, свабодны шлях сабе шукай.**

І вось ужо гучыць на сцэне прыгожая незабыўная музыка на верш "Зорка Венера". Раманс, у якім паэт апявае маладосць з яе рамантычнымі марамі, стала любімай народнай песняй. Чароўнасць яе мелодыі і словаў я адчула яшчэ маленькай дзяўчынкай, калі мама з сяброўкай, жанчыны, не меўшыя сярэдняй адукацыі, пранікнёна спявалі яе.

Дзяўчаткі Ліза Шалкоўская і Каця Білюк у беларускіх нацыянальных строях выканалі танец з рушнікамі.

Потым быў абвешчаны конкурс на прыз "Світанка". Да мастацкага чытання вершаў М.Багдановіча рыхтаваліся і прынялі ўдзел вучні Радзюкоўскай базавай школы. Усе дзевяць удзельнікаў атрымалі падарункі.

Гасцямі на вечарыне былі вучні Шаркоўшчынскай СШ№1, удзельнікі фальклорнага гуртка, разам з настаўніцай І.А.Тарбецкай, сябрам "Світанку", дзіцячай пісьменніцай.

Арганізатары літаратурнай вечарыны, вядома ж, чакалі большай колькасці прысутных. Вельмі мала было дарослых, не праявілі актыўнасці і вучні старэйшых класаў базавай школы. Аб гэтым трэба задумацца ў першую чаргу настаўнікам. Няведанне сваёй нацыянальнай літаратуры, нежаданне пранікнуць у культурны і мастацкі свет павінна насцярожваць. Ці не бездухоўных нашчадкаў мы выхоўваем? Ці не тых Іванаў, якія не будуць памятаць роднасці?

Але цешыць думка, што нешта светлае, роднае застанецца ў памяці тых юных удзельнікаў, якія прыйшлі на гэту сустрэчу і прынялі ў ёй удзел. Няхай у іншых – не сэнс вершаў, затое васілёк, зроблены рукамі арганізатараў і шыпшына, хоць і не ўсе ведаюць, што гэта словы азначае па-беларуску (быў у маёй практыцы такі момант), беларускія рушнікі, вышытыя кімсьці з радзюкоўскіх жанчын.

Многія лічаць, што культурная спадчына – састарэлае, нямоўнае паняцце, непатрэбнае. У свеце, мауляў, запатрабаваны іншыя каштоўнасці. На гэтыя разважанні хочацца адказаць пытаннем з твора М.Багдановіча: "Навошта тыя каласы, калі ў іх няма васількоў?"

* паломніца (тлумачальны слоўнік)



**Гучаць "Слуцкія ткачыхі". Вечарына, прысвечаная творчасці М.Багдановіча. Аўтар гэтага артыкула – другая злева. А\г Радзюкі. Снежань 2013г.** *Фота Германа Тарбецкага.*

# За 2013 год канфіскавана 2 кіламетры браканьерскіх сетак

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Асаблівым нацыянальным здабыткам Беларусі заўсёды была і застаецца прырода. Ад стану навакольнага асяроддзя шмат у чым залежыць лёс дзяржавы. Маючы багатыя прыродныя рэсурсы, дзяржава можа паўнавартасна развівацца, і мы, грамадзяне, абавязаныя ўсяляк садзейнічаць захаванню нашых багаццяў, аказваць пасільную дапамогу прыродаахоўным органам у барацьбе з парушальнікамі і браканьерамі. Сышоў у гісторыю 2013 год, можна падвесці вынікі працы, выканання грамадзянамі нормаў прыродаахоўнага заканадаўства. Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету ў мінулым годзе спынена 204 парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, з іх 70 парушэнняў правіл рыбалоўства, канфіскавана 46 браканьерскіх сетак, агульнай даўжынёй больш за 2 км., 230 кг. незаконна здабытай рыбы, 56 іншых забароненых прылад рыбалоўства, у адносінах 2 браканьераў узбуджаны крымінальныя справы, прычынены прыродзе ад дзеянняў браканьераў урон у суме 50 млн. рублёў пакрыты ў поўным аб'ёме. Так, жыхар г. Глыбокае грамадзянін Шаура К.І. у перыяд вясновага нерасту рыбы ажыццяўляў здабычу рыбы на возеры Лапішкі Глыбоцкага раёна сеткамі, урон, прычынены прыродзе, склаў больш за 13 млн. рублёў. За незаконную здабычу рыбы Шаура К.І. асуджаны судом Глыбоцкага раёна да штрафу ў памеры 70 базавых велічынь.

Выяўлена 33 парушэнні правіл палявання, канфіскавана 10 адзінак агнястрэльнай зброі, 5 з якіх незарэгістраваных, 2 наразных, 127 іншых прылад палявання, у браканьераў канфіскавана 400 кг. незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл.

11 верасня 2013 года затрыманы жыхар Докшыцкага раёна грамадзянін В., які, знаходзячыся ў сваякоў у Браслаўскім раёне, незаконна з выкарыстаннем незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы здабыў лася, але быў затрыманы ў Глыбоцкім раёне. Следчым камітэтам па Браслаўскім раёне ўзбуджана і разглядаецца крымінальная справа па ч.2 арт.282 КК РБ, зброя і аўтамабіль канфіскаваныя. Усяго ў 2013 годзе ўзбуджана 5 крымінальных спраў за незаконнае паляванне.

У мінулым годзе супрацоўнікамі міжрайінспекцыі выяўлена 53 парушэнні правіл лесакарыстання, у парушальнікаў канфіскавана 1060 м.куб. незаконна высечанай драўніны, сума прад'яўленага ўрону склала больш 700 млн. рублёў.

На тэлефон даверу міжрайінспекцыі паступіла больш за 40 паведамленняў пра здзейсненыя ці здзяйсняныя правапарушэнні, па ўсіх праведзена праверка, выяўлена 34 правапарушэнні.

У розных сродках масавай інфармацыі змешчана 126 артыкулаў і нататак пра выяўленыя парушэнні і працы міжрайінспекцыі, праведзены адкрытыя ўрокі з навучэнцамі школ і гімназіі раёна, на якіх распавядалася пра задачы міжрайінспекцыі, растлумачвалася дзейснае заканадаўства, інспектары далі адказы на пытанні вучняў. З мэтай прававога выхавання грамадзян, захавання нашай прыроды такія сустрэчы будуць праводзіцца і ў далейшым.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету выказвае падзяку грамадзянам, якія аказвалі дапамогу ў барацьбе з браканьерамі.

Тэлефоны «даверу»: 8-02156- 28670 – кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 МТС.

## У 2014 годзе аўтаўладальнікаў чакае шэраг новаўвядзенняў

**У 2014 годзе беларускіх аўтаўладальнікаў чакае шэраг новаўвядзенняў. Пра гэта падчас перадНавагодняй прамой лініі з чытачамі газет «Транспортный вестник» і «ДТП» паведаміў начальнік упраўлення ДАІ МУС Беларусі Юрый Літвін.**

Паводле яго слоў, аўтаўладальнікаў чакае абавязковае выкарыстанне зімовых шын, дзіцячых сядзенняў (крэслаў). Будзе ўведзена адказнасць уласнікаў аўтамабіляў за няправільную паркоўку. «Існуе база даных ДАІ, паводле якой высвятляецца, што канкрэтны аўтамабіль зарэгістраваны на канкрэтнага грамадзяніна. Калі аўтамабіль стаіць няправільна, прыцягваецца не той, што прыпаркаваў, а чалавек, на якога гэта аўтамабіль зарэгістраваны», — сказаў Літвін.

Ён адзначыў, што ў арсенале ДАІ з'явяцца сучасныя прыборы фота- і відэафіксацыі, якія ў аўтаматычным рэжыме будуць счытваць нумары, вызначаць уласніка, а таксама сучасныя прыборы фіксацыі хуткасці.

***В. Будкевіч, БелаПАН.***

## У Беларусі стартаваў конкурс «Развіццё арганізацыйнага патэнцыялу некамерцыйных арганізацый»

**Інфармацыйна-асветная ўстанова «Новая Еўразія» праводзіць у Беларусі адкрыты конкурс «Развіццё арганізацыйнага патэнцыялу некамерцыйных арганізацый».**

Конкурс арганізаваны ў межах першага кампанента праграмы «Умацаванне патэнцыялу сумесных ініцыятыў», якая рэалізуецца пры падтрымцы фонду «Еўразія» за кошт сродкаў Агенцтва ЗША па міжнародным развіцці (USAID). Асноўнай мэтай праграмы з'яўляецца павышэнне арганізацыйнага патэнцыялу некамерцыйных арганізацый і падтрымка сумесных ініцыятыў, скіраваная на прафесійнае развіццё некамерцыйных арганізацый, ВНУ, бізнес-школ, даследчых цэнтраў і мясцовых супольнасцяў.

Праграма ўключае тры асноўныя кампаненты: кансультацыйную падтрымку ў галіне павышэння арганізацыйнага патэнцыялу некамерцыйных арганізацый, фінансавую падтрымку арганізацыйнага развіцця, а таксама тэхнічную і фінансавую падтрымку прафесійнага развіцця сумесных ініцыятыў.

У конкурсе могуць узяць удзел грамадскія аб'яднанні і іншыя некамерцыйныя арганізацыі, зарэгістраваныя ў Рэспубліцы Беларусь, якія ажыццяўляюць дзейнасць на тэрыторыі краіны і гатовыя прадэманстраваць вынікі сваёй дзейнасці.

Заяўкі прымаюцца па 3 лютага ўключна, паведамляюць арганізатары. Форму заяўкі можна знайсці на сайце www.eurasia.by. Ліст з пазнакай "Заяўка на конкурс" неабходна адправіць па адрасе: Інфармацыйна-асветная ўстанова «Новая Еўразія», праспект Пераможцаў 5, офіс 218, 220004 Мінск, Беларусь. Акрамя таго, заяўку неабходна прадубляваць на электронны адрас program@eurasia.by.

***А. Салановіч, БелаПАН.***



## Віншуем з узнагародай!



**21 снежня 2013 года, у Мінску, на сустрэчы кіраўнікоў рэгіянальных суполак ГА «БАЖ», Глыбоцкай філіі БАЖ прысуджана трэцяе месца.**

***З чым шчыра віншуем працаўнікоў найстаражытнейшай прафесіі, свайго роду, санітараў грамадства.***

Працаўніку пяра і дыктафона  
Мы шанаванні сёння аддаем.  
З навін тваіх няхай квітнеюць  
Палітыка і бізнэс з кожным днём!  
Жадаем табе час не марнаваць,  
Хай поспех спадарожнічае ў дарозе,  
Каб змог на фінішы спартоўца абагнаць,  
Бо журналіста, як вядома, кормяць ногі.  
Хуткіх табе ног, вострага пяра і трапнага слова.

**На здымку:** касцяк суполкі, справа налева – рэдактар газеты "Вольнае Глыбокае" Уладзімір Скрабатун, галоўны рэдактар газеты "Прэфект інфо" Зміцер Лупач, фота-відэажурналіст ГА БАЖ і IJF Яўген Самсонаў, старшыня Глыбоцкай філіі ГА БАЖ Таццяна Смоткіна, генеральны дырэктар рэкламнага агенства "Прэфект- інфо" Яраслаў Бернікові ч.

***Фота сябра ГА БАЖ Алёны Капшуль***

## МНС інфармуе

**на 14.01.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**  
Пажараў – 27;  
Гібель людзей – 6, з іх 0 дзяцей;  
Урон – 36,0 млн. руб.

**Глыбоцкі раён:**  
Пажараў – 2;  
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;  
Урон – 3,0 млн. руб.

